# ПАГОНЯ

РЭГІЯНАЛЬНЫ АГЛЯД: ГОРАДНЯ-ВІЛЬНЯ-БЕЛАСТОК ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

№ 15(71) 20-26 траўня 1994 г. Кошт 150 руб.


*Урад наўмысна не стварае варункаў для прагрэсу ад жаданьня працягнуць* **сваё панаваньне**

**Дэмакратыяй нават ня пахне,** *таму што ва ўладзе тыя ж самыя, што былі ў часы застою*

**Лех ВАЛЭНСА:** *Мінулае важна для грамадзкай самасьвядомасьці, але яно не павінна ціснуць на будучыню*

**ПРАГРАМА ТЭЛЕБАЧАНЬНЯ НА ТЫДЗЕНЬ:** *Менск – Варшава – Масква*

## ГАРАДЗЕНШЧЫНА ВЫЯВІЛА ПРЫЯРЫТЭТЫ

Дубко, Кебіч і Пазьняк - вось тры асобы, якія лідыруюць на Гарадзеншчыне па выніках збору подпісаў у падтрымку прэтэндэнтаў на пасаду прэзідэнта Беларусі. Вынікі актыўнасьці іх ініцыятыўных групаў - 66723, 56281 і 50349 подпісаў адпаведна. 27673 подпісы - у Лукашэнкі. У актыве Шушкевіча - 18839. Трошкі менш подпісаў (16123) сабрала ініцыятыўная група мала каму вядомага Новікава. Замыкаюць лідэрскі пэлетон Карпенка й Ахрэм, у падтрымку якіх выказаліся адпаведна 8352 і 4951 выбаршчык.

Асноўную частку сваіх галасоў Дубко й Кебіч набралі ў сельскай мясцовасьці, дзе ў большасьці раёнаў на першым месцы Старшыня Савета Міністраў. Затое ў Горадні за Вячаслава Францавіча паставілі свае подпісы толькі 2838 чалавек - гэта самы нізкі паказчык сярод усіх прэтэндэнтаў. Свае сымпатыі Горадня аддала Лукашэнку (16835), Пазьняку (15441) і Дубко (13656).

Вельмі роўнымі выглядаюць вынікі працы ініцыятыўнай групы ў падтрымку З.Пазьняка. Але, як сьведчыць аналіз, асноўнае апірышча Зянона Станіслававіча - мястэчкі й гарады вабласнога падпарадкаваньня. Калі толькі ў чатырох сельскіх раёнах - Гарадзенскім, Іўеўскім, Карэліцкім і Лідзкім - Пазьняк мае другі вынік, то ў Смаргоні, Слоніме, Навагрудку, Лідзе, Ваўкавыску Старшыня Народнага Фронту лідыруе са значным адрывам. Напрыклад, у Лідзе гэты адрыў склаў 1800 подпісаў.

На вялікі жаль, вельмі дрэнна спрацавалі сябры Народнага Фронту ў Берастаўіцкім, Воранаўскім, Зэльвенскім, Навагрудзкім, Слонімскім і Смаргонскім раёнах. У кожным з іх за Пазьняка паставілі свае подпісы менш, чым па тысячы чалавек ( у Навагрудзкім - толькі 218). А вось у Ваўкавыскім раёне ініцыятыўная група ў падтрымку Пазьняка ўвогуле не працавала.

Безумоўна, гэтыя дадзеныя не адлюстроўваюць сапраўднага рэйтынгу прэтэндэнтаў на высокую пасаду. Канчаткова ён будзе вызначаны толькі 23 чэрвеня.

**М.ТУРАВЕЦ.**

**P.S.:** Калі нумар быў падрыхтаваны да друку, рэдакцыя атрымала зьвесткі аб падтрымцы кандыдата ў прэзідэнты ад Беларускага Народнага Фронта "Адраджэньне" З.С.Пазьняка па рэгіёнах: г.Менск - 91000 подпісаў; Менская вобласьць - 24000; Берасьцейская - 25000; Віцебская - 19000; Магілёўская - 14000; Гомельская - 7000 подпісаў.

## ЗБОР СКОНЧЫЎСЯ– ПАЧАЎСЯ РАЗБОР

15 траўня скончыўся тэрмін здачы ў выбарчыя камісіі падпісных лістоў за вылучэньне кандыдатаў на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Па інфармацыі Цэнтрвыбаркама больш за 100 тысяч подпісаў набралі шасьцёра прэтэндэнтаў. У іх ліку Вячаслаў Кебіч (406 тысяч выбаршчыкаў і 203 дэпутаты), Зянон Пазьняк (226214), Аляксандр Лукашэнка (177681), Аляксандр Дубко (142750), Васіль Новікаў (200540) і Станіслаў Шушкевіч (122405).

Цяпер па 26 траўня выбарчыя камісіі будуць правяраць падпісныя лісты й выключаць тыя, подпісы ў якіх сабраны з парушэньнем заканадаўства. Афіцыйная рэгістрацыя кандыдатаў будзе праходзіць з 27 траўня па 2 чэрвеня.

## КАРПЕНКА ПАД ПЫТАНЬНЕМ

Як паведаміў нам народны дэпутат Рэспублікі Беларусь Васіль Даўгалёў, членамі ініцыятыўнай групы за вылучэньне Г.Карпенкі кандыдатам на пасаду прэзідэнта сабрана больш за 108 тысяч подпісаў выбаршчыкаў і 78 - дэпутатаў. Тым ня менш, няма гарантыі, што Цэнтрвыбаркам зарэгіструе спадара Карпенка ў якасьці афіцыйнага кандыдата.

Аднак, вечарам 16 траўня ў Цэнтрвыбаркаме паведамілі, што ў актыве Г.Карпенкі 97 тысяч подпісаў выбаршчыкаў і 71 - парлямэнтарыяў. Спадар Даўгалёў запэўніў, што яго дадзеныя аб колькасьці подпісаў выбаршчыкаў зьяўляюцца дакладнымі. Па яго словах, ініцыятыўная група валодае копіямі ўсіх падпісных лістоў, здадзеных у Цэнтрвыбаркам. Разыходжаньні паміж дадзенымі камісіі і ініцыятыўнай групы спадар Даўгалёў растлумачыў тым, што раённыя выбаркамы занізілі колькасьць подпісаў, здадзеных прыхільнікамі Карпенкі.

На думку нашых экспэртаў, нават калі зьвесткі Даўгалёва будуць дакладней, такая колькасьць подпісаў не пазбаўляе спадара Карпенку ад непрыемнасьцяў.

**СІМ.**

## «ЧАМУ Я ПРАГАЛАСУЮ ЗА ПАЗЬНЯКА?»

**- на гэтае пытаньне карэспандэнт "Пагоні" папрасіў адказаць людзей, якія вырашылі падтрымаць кандыдатуру лідэра БНФ на прэзідэнцкіх выбарах.**

**Уладзімір Малашкевіч, рэдактар часопіса "Целитель":** - Я сам практычна ўсё жыцьцё - апазыцыянер, і вельмі добра разумею на сёньняшні дзень пазыцыю З.Пазьняка. Ён адзіны, хто сьмела заяўляе аб будаўніцтве сваёй нацыянальнай дзяржавы. Са смуткам разумею, што перамагчы ўсю дзяржаўную машыну, якая працуе зараз на камуніста Кебіча, будзе вельмі складана. У гісторыі нашай краіны заўсёды былі выдатныя людзі - браты Луцкевічы, М.Гарэцкі..., якія ў свой час засталіся незразумелымі нашаму народу. І ўсё ж глыбока ў душы адчуваю, што настаў час - мы павінны выбіраць шлях незалежнасьці, а гэта значыць, аддаць свае галасы за Пазьняка.

**І.Д., студэнтка мэдінстытута:** - Мы занадта доўга былі нечым прыдаткам, і кіравалі намі непісьменныя партыйныя функцыянэры, накшталт таго ж Кебіча, Лукашэнкі, Новікава й г.д. Я, як і Пазьняк, за свабоду, незалежнасьць, адукаванасьць, прафэсіяналізм і дабрабыт усяго беларускага народа.

**Міхаіл Адамін, урач:** - Сваёй папярэдняй дзейнасьцю ў парлямэнце й як лідэр БНФ, Пазьняк паказаў і даказаў, што ён сапраўдны чалавек і палітык. Больш таго, ён - прызнаны лідэр нашага народа, і відавочна, што сваё жыцьцё, свой лёс Зянон Станіслававіч прысьвяціў Беларусі.

## ВЕСТКІ З ПОЛЬШЧЫ

Прэзідэнт Л.Валэнса нанёс афіцыйны візыт у Эстонію. Вынік візыту: прынята дэклярацыя садзейнічаньня ў будове эўрапейскай бясьпекі, стварэньне клімату далейшага гаспадарчага супольніцтва, падтрымка ідэі будовы аўтастрады Віа-Балтыка.

***

Прэзідэнт РП сустрэўся з лідэрам нямецкіх сацыял-дэмакратаў, прэтэндэнтам на пасаду канцлера Р.Шарнінгам. "Польшча адводзіць шмат увагі супрацоўніцтву з Нямеччынай, - заznачыў Л.Валэнса, - і зробіць усё , каб нашае суседзтва было прыемным." Ён выказаў спадзяваньне, што візыт Шарнінга паспрыяе разьвіцьцю польска-нямецкага супрацоўніцтва.

Старшыня СПД заявіў, што добрыя адносіны паміж Польшчай і Нямеччынай маюць значэньне для ўсёй Эўропы, і дадаў, што цяперашні пэрыяд вялікіх шанцаў трэба выкарыстаць і пракласьці шлях у супольную Эўропу, састаўной часткай якой зьяўляецца й Польшча.

***

Г.Гупка, колішні правадыр зямляцтва Сілезцаў у нямецкім саюзе выгнаньнікаў, а зараз прэзідэнт фонду "Усходне-нямецкая Рада культуры" на пытаньне, ці адабрае ён межы на Одэры й Нысе, адказаў, што заключаныя ўрадам трактаты трэба паважаць, аднак як грамадзянін дэмакратычнай дзяржавы ён мае права не згаджацца з такімі рашэньнямі. "Польска-нямецкі трактат узаконіў сталінскі падзел гэтай часткі Эўропы. Справа выгнаньня немцаў была пакладзена на алтар добрасуседзкіх адносін паміж Польшчай і Нямеччынай."

***

Праэкт закона аб Дэнамінацыі злотага быў адобраны эканамічным камітэтам Рады міністраў. Праэкт прадугледжвае, што з 1 студзеня 1995 года сёньняшнія 10 тысяч злотых станучь 1 злотым. На працягу двух гадоў у абарачэньні будуць існаваць дзьве афіцыйныя валюты.

***

Настаўнікі польскай мовы ў Беларусі змогуць павысіць сваю кваліфікацыю й атрымаць дыплём па спэцыяльнасьці: пачатковае навучаньне й культурна-асьветніцкая пэдагогіка на факультэце пэдагогікі й псыхалёгіі філіяла Варшаўскага ўнівэрсітэта ў Беластоку.

***

У Варшаве пачаўся судовы працэс над 45-гадовым маёрам дзяржбясьпекі Маркам З., які абвінавачваецца ў шпіяваньні з 1981 па 1990 г. на карысьць ваеннай савецкай разведкі.

**Па матэрыялах польскага друку.**

## КЕБІЧ АТРЫМЛІВАЕ ЎСЯГО 842 ТЫСЯЧЫ Й ЗАСТАЕЦЦА АПТЫМІСТАМ

17 траўня Горадню наведаў старшыня Савета міністраў Беларусі Вячаслаў Кебіч. Да гэтага напярэдадні прэм'ер пабыў у Смаргоні й Лідзе, дзе наведаў шэраг прамысловых прадпрыемстваў і сустрэўся з аграрнікамі.

У абласным цэнтры яго праграма распачалася з наведваньня прамысловых прадпрыемстваў "Хімвалакно" і прадзільна-ніткачага аб'яднаньня, пасьля чаго адбылася сустрэча з гаспадарчым актывам вобласьці. Прысутныя доўга даводзілі прэм'еру аб складаным становішчы ў эканоміцы, будаўніцтве, на транспарце, шмат наракалі на фінансавы недахоп, распавядалі, як многа яны зрабілі дзеля таго, каб захаваць працоўныя калектывы, спэцыялістаў, але ўрэшце без дапамогі зьверху далей немагчыма. Выйсьце бачыцца толькі ў адным - хутчэй давайце рублёвую зону, бо па тэлевізары пачуеш, што як ўжо заключылі, а радыё перадае інфармацыю аб чэргах на мяжы ў Воршы.

Праўда, усе іх выступленьні былі толькі дармовай тратай часу, бо прэм'ер адразу заявіў, што аб усіх гэтых бедах ведае. І найперш адкрыў калегам таямніцу, аб якой, дарэчы, як сам зазначыў, кажа ўпершыню. Маўляў, задача расейскага кіраўніцтва пасьля развалу Саюза заключалася ў тым, каб правучыць усіх, хто надта ірваўся да сувэрэнітэту. Першым быў Казахстан, калі яму далі зразумець, што паўночныя яго вобласьці могуць адыйсьці да Расеі, затым Украіна з Чарнаморскім флотам. А да Беларусі чарга дайшла тады, калі мы адзначылі перамогу над Расеяй пад Воршай. Менавіта гэта, як зазначыў прэм'ер, было галоўнай прычынай таго, што нам адключылі газу. А яшчэ яму патрэсьлі пальчыкам і сказалі: "Калі адзначыце яшчэ адну перамогу, то прыйдзеце ў палон самі."

Дык вось, навука з гэтага такая: розныя палітыканы перашкаджаюць заключыць саюз з Расеяй, каб усім добра жылося.

Яшчэ адзін непаслухмянец, акрамя палітыканаў - Нацыянальны банк. Маўляў, той Багданкевіч не падпісаў як трэба дамову й нам не падпарадкоўваецца. Тут Вячаслаў Францавіч зазначыў, што за гэтым стаяць нейкія цёмныя сілы. Хутчэй за ўсё давядзецца закрыць гэтую практычную біржу, якая дае магчымасьць грэць рукі розным банкірам. А наконт дамовы з Расеяй прэм'ер прасіў не хвалявацца таварышаў. Яна будзе вельмі хутка дзейнічаць. Заменяць толькі той пункт, зь якім не пагадзіўся Багданкевіч. Дамова з Чарнамырдзіным ужо ёсьць. Праўда, прэм'ер зазначыў, што пасьля Горадні сьпехам паскачаў Масква да свайго калегі, бо існуе небясьпека, што чорныя сілы яшчэ што-небудзь утвораць.

І яшчэ, як асноўнае, Вячаслаў Францавіч, між іншым, зазначыў, што, канешне, лёс поўнай дамовы з Расеяй залежыць ад выбараў у нас прэзідэнта, бо гэты Саюз заключаецца не на год ці два, а назаўсёды. (Дзіўна, што ў гэтай сытуацыі ёсьць нават і такое, што залежыць ад Беларусі - аўт.)

А наогул прэм'ер быў у добрым настроі. Напэўна, ён вялікі аптыміст. Транспартнікам абяцаў, што будуць камэрцыйныя рэйсы аўтобусаў, зусім хутка кампэнсуецца запазычанасьць па хлебу. 50 мільёнаў ужо вырашылі адпусьціць на ахову здароўя, і нават музычнае вучылішча ў Горадні прэм'ер асабіста дапаможа дабудаваць. Яшчэ паабяцаў, што абавязкова будзе прысутнічаць на другім кангрэсе народаў Беларусі й нават там выступіць, што вельмі ўсьцешыла залу.

Неяк нясьціпла прагучала пытаньне: колькі ж прэм'ер атрымлівае? Вячаслаў Францавіч і тут не засаромеўся, маўляў, усяго 842 тысячы рублёў. З залы нават паспачувалі, што надта ўжо мала, і нават нехта прапанаваў скінуцца...

У заключэньні прэм'ер вельмі дзякаваў прысутным за добрыя адносіны да яго асобы. У гэты ж дзень Вячаслаў Францавіч наведаў каталіцкую духоўную сэмінарыю й Саюз палякаў у Беларусі, пасьля чаго паехаў яшчэ ў калгас "Кастрычніцкі" Гарадзенскага раёна.

**(ір).**

# ЯК СТАЦЬ ПРЭЗІДЭНТАМ?

У нас будзе прэзідэнт, першы прэзідэнт Рэспублікі Беларусь. Упершыню адбудуцца свабодныя выбары. Будзем спадзявацца, што вакантнае месца зойме найбольш годны з прэзідэнтаў. Чалавек, які будзе клапаціцца спачатку аб народзе, а ўжо потым аб уласных інтарэсах і патрэбах свайго акружэньня, які нарэшце здолее вывесьці краіну з крызысу цывілізаваным шляхам. Але гэта пэрспэктыва. У хуткім жа часе пачнецца перадвыбарчая барацьба. Прэцэдэнта яе на Беларусі яшчэ не было. Таму асноўныя яе моманты паспрабуем прайсьці разам з гэроем рамана Робэрта Пэнна Уоррэна Вільлі Старкам. Спадзяюся, што гэта будзе цікава й прэтэндэнтам на пасаду прэзідэнта, й выбаршчыкам.

Перш за ўсё кандыдат у прэзідэнты павінен забыць пра ўсё неістотнае й быць упэўненым у тым, што толькі ён здольны набраць найбольшую колькасьць галасоў у сваю падтрымку. "Ён (Вільлі) думаў, што іншыя таксама ашаламлёныя велічам і бляскам пасады, да якой ён імкнецца, і будуць прыслухоўвацца толькі да прамоваў, настолькі блiскучых і ўзвышаных."

Потым трэба знайсьці свой палітычны імідж, які б адпавядаў чаканьням большасьці выбаршчыкаў, зьдзейсьніць паездку па сваёй акрузе, каб знайсьці як мага болей прыхільнікаў, у тым ліку сярод вядомых асобаў.

"Вільлі езьдзіў па штату... і бачыў свой твар на плякатах, папрыбіваных да штыкэтнікаў, тэлефонных слупоў і сьценаў павецяў. Прыехаўшы ў горад, ён... ішоў на сустрэчу з мясцовымі палітыкамі й, скончыўшы з абавязкамі рукапацісканьня,.. забіраўся ў нумар гатэля... і браўся дапрацоўваць чарговую прамову. Ён адточваў і адшліфоўваў гэты скарб."

**Але ж самая дасканалая (з пункту гледжаньня аўтара) прамова можа ўтрымліваць зусім ня тое, што жадалі б пачуць слухачы.** У Вільлі было мала вопыту, таму яго выступы "уяўлялі сабой мешаніну фактаў і лічбаў, з аднаго боку (яго падаткавая праграма, яго дарожная праграма), і ўзвышаных пачуцьцяў, з другога (прыглушанае часам рэха цытат...).

Таму ня выключана, што сказанае прамоўцай будзе не зразумела й не цікава выбаршчыкам з-за складанасьці тэксту. "Ніхто ня слухаў яго прамоваў... Яны былі жудаснымі... Ён казаў: "Цяпер, сябры, калі вы запасецеся цярплівасьцю, я паведамлю вам лічбы...", і людзі паціху апаўзалі на крэслах, пачыналі чысьціць ногці сьцізорыкамі".

Большасьці выбаршчыкаў, можа быць, нават даўно вядома тое, што скажа прамоўца, і яны могуць думаць: "Чаго ён ад мяне хоча? З чаго ён узяў, быццам мне цікава слухаць аб патрэбах штата? Я й так ведаю, няхай яму будзе ліха."

Калі прэтэндэнт адчуе і ўсьвядоміць гэта, у яго могуць апусьціцца рукі, і ўзьнікнуць думкі: "...Яны не жадаюць мяне слухаць. Будзь яны пракляты. Ідыёты. Яны прыходзяць слухаць прамову й ня слухаюць ні слова. Ім усё роўна... І я ня буду губэрнатарам. Будзе той, каго яны заслугоўваюць...'Эх, калі б я змог іх прымусіць слухаць."

Ня трэба губляцца, страчваць надзею на лепшае, а проста пагутарыць з кім-небудзь з разумных людзей і выслухаць парады. "Магчыма, ты надта шмат ім тлумачыш. Гэта паралізуе іх мазгавыя клеткі... Паабяцай, што прыцісьнеш тоўстых,- і хопіць пра падаткі. Елкі зялёныя, прымусь іх плакаць, прымусь іх сьмяяцца, растлумач, што ты ім сябра, аблудная душа ці Гасподзь Усемагутны. Раззлуй іх урэшце, хай хаця б на цябе злуюцца. Толькі разварушы іх - усё роўна, чым і як, - і яны цябе палюбяць. Будуць есьці з тваіх рук... Гавары ім што хочаш. Але, дзеля ўсяго сьвятога, не спрабуй іх вучыць."

Нават калі ў кандыдата зьяўляюцца непрыемнасьці накшталт таго, што яму здрадзіць хто-небудзь з яго каманды ці высьветліцца, што ён вылучаны толькі дзеля таго, каб адабраць галасы ў іншага прэтэндэнта нават з той жа партыі, ня трэба губляцца. А рашуча, як Вільлі, рабіць сваю справу й зрабіць так, каб выбаршчыкі зьвярнулі ўвагу менавіта на вас: ашаламіць іх незвычайнымі, скандальнымі паводзінамі, і гэта прынясе посьпех.

"Вось тут у мяне прамова напісана, - сказаў Вільлі. - Прамова аб тым, як трэба дапамагчы штату. Але ня мне вам тлумачыць, што трэба штату. Вы й ёсьць штат... Зірніце на свае порткі. Няўжо няма ў вас латак на каленях? Прыслухайцеся да свайго пуза. Няўжо ў ім ня бурчыць ад голаду?.. Сябры, мякінныя галовы, галадранцы й браты вахлакі, - пачынаў ён, - нахіліўшыся наперад, угледаючыся ў іх твары. І замаўкаў, чакаючы, пакуль да іх дойдзе. У цішыні натоўп пачынаў варушыцца й абурацца - яны ведалі, што іх абзываюць за вочы, але ніхто яшчэ не асьмельваўся ўстаць і сказаць ім гэта ў твар. "Так, - казаў ён, крывячы рот, - ды больш вы ніхто, і няма чаго злавацца, калі я кажу праўду... Я таксама галадранец, бо ўсё жыцьцё корпаўся ў зямлі. Я мякінная башка, бо мяне ачмуралі златавусты на дарагіх аўтамабілях... Але я паўстаў з карачак... Я навучыўся, не адразу, але навучыўся. І цяпер стаю на сваіх нагах. А вы стаіце? Хаця б гэтаму вы навучыліся... Калі ў вас засталася хоць кропля розуму, вы ўбачыце й зразумееце праўду. Вось яна, гэтая праўда: вы - вахлакі, і ніхто ніколі не дапамагаў вахлакам, акрамя іх саміх. Гэтыя з горада, яны не дапамогуць вам... Вы пытаеце, якая у мяне праграма. Вось яны, галадранцы... Распніце іх! Распніце ўсіх, хто стаіць на вашым шляху. Дайце мне малаток, і я гэта зраблю сваімі рукамі. Прыбіце іх да дзьвярэй хлява! І не зганяйце з іх гнойных мук індычнымі крыльцамі!"

Можна быць упэўненым, што, нацiснуўшы такім чынам на падсьвядомасьць людзей, абудзіўшы іх жывёльныя інстынкты (як зрабіў гэта адзін чалавек у Расеі, і робіць яшчэ адзін на Беларусі), прэтэндэнт атрымае ад іх пажаданую падтрымку на выбарах. Яны ня будуць памятаць, ад якой ён партыі вылучаны, якая ў яго праграма, а быццам пад гіпнозам, прагаласуюць за яго. "І не было ніякай дэмакратычнай партыі. Быў толькі Вільлі - з чубам на вачох, у кашулі, якая прыліпла да жывата. У руках ён трымаў мясьніцкую сякеру й крычаў: "Крыві!.. Вільлі стаў губэрнатарам, і ніхто ня ведаў, чым гэта скончыцца."

Таму выбаршчыкам не пашкодзіла б добра падумаць, перш чым падтрымаць таго ці іншага кандыдата, узважыць вартасьць кожнага, не купіцца на пустыя, неабгрунтаваныя абяцаньні, але выказаныя эмацыянальна, не зьвярнуўшы ўвагі на простыя, шчырыя, але поўныя глыбокага сэнсу словы другога. А ўвогуле, чытайце клясыку.

**Д.АЛЕГАЎ.**

# «ВАНЬКА – БАРЫН, ЯСЬ – ЖАБРАК»

Чым болей зыходзіць часу з падпісаньня ў Маскве беларускім прэм'ерам В.Кебічам дакумэнтаў аб адзінай рублёвай зоне, тым больш клопат выказваюць нашы чытачы.

Сёньня гарадзенскі камэрсант Валеры Сачкоўскі дзеліцца сваімі меркаваньнямі з карэспандэнтам "ПАГОНІ".

- Распачну з агульнавядомых ісьцін. Кожная дзяржава вызначае самастойна фінансава-крэдытную палітыку, а нацыянальны банк кантралюе эмісію грошай. Пагадненьне, падпісанае ў Маскве, блякуе гэтыя два найважкія моманты. Рэальна паўстае пытаньне, што згубіла й што набыла сувэрэнная Беларусь? Пачну са здабыткаў. Урад цешыцца й цешыць нас таннымі коштамі на сыравіну, энэрганосьбіты, ліквідацыяй мыта, адзінай эканамічнай прасторай. Гэта ў пазытыве ўраду, але калі добра вывучыць вышэй згаданыя пазыцыі, то чалавек, які зьдзяйсьняе фінансавыя і іншыя зьдзелкі, лёгка заўважыць, як пазытыў перарастае ў негатыў. Патлумачу. У Расеі за апошнія два-тры гады створаны інвэстыцыйныя фонды, акцыянэрныя таварыствы накшталт АТ "МММ" ці "Хапёр-Інвест", набірае моцы прыватызацыя, раздзяржаўленьне, да таго ж трэба згадаць і пра велізарныя сумы грошай, што засталіся пасьля развалу ЦК КПСС. Усе гэтыя прыватныя й дзяржаўныя фірмы, што валодаюць каласальнымі сумамі, жадаюць пусьціць свае фінансы ў справу. Калі на тэрыторыі Беларусі адзіным разьліковым сродкам стане рубель, то можна лёгка спрагназаваць, што праз кароткі час стане з дзяржавай пры такім урадзе й парлямэнце. Адным словам, Ванька будзе барынам, а Ясь - жабраком.

На жаль, гэтага не разумее большасьць нашых грамадзян. Падагрэтыя прапагандай інтэрнацыяналістаў пра векавую любоў і дружбу братніх славянскіх народаў, людзі верацъ у справядлівасьць захадаў ураду.

Кажуць, што пакуль не грымне гром, мужык не перахрэсьціцца. Гром ужо грыміць, і грыміць з вялікай сілай. Ёсьць і першыя ластаўкі - празьмерны інтарэс Расеі да нафтаправадаў, што пралягаюць на тэрыторыі Беларусі, нафтаперапрацоўчых заводаў. Прага расейскага капіталу да "БеЛАЗа", "МАЗа", "Гомсельмаша" павінна трывожыць любога. Найперш непакой адчуваецца сярод беларускіх бізнэсмэнаў. Яны таксама хацелі б інвэставаць сродкі на выкуп дзяржуласнасьці. Але ці пачуюць наш голас тыя, хто, заблытаўшыся між дзьвюх сосен, шукае выйсьце пры дапамозе другога, чужога. Тут я маю на ўвазе наш урад. Упэўнены, што ён наўмысна не стварае варункаў для прагрэсу й станаўленьня мясцовага прыватнага капіталу. І робіць гэта ад жаданьня працягнуць як мага болей сваё панаваньне.

Што трэба рабіць, каб ня даць магчымасьці гаспадарыць на нашай зямлі чужым інтарэсам? Зьмяніць кіраўніцтва. Да выбараў засталося ня шмат часу. За гэты кароткі тэрмін усім неабходна вызначыцца, пралічыць і зрабіць свой выбар. Памылкі не павінна быць. Выбары - адзіны цывілізаваны шлях, якім грамадзяне Беларусі могуць атрымаць перамогу на сваю карысьць.

Запытваў **Г.АСТРОЎСКІ.**

# ПРЭЗІДЭНТАМ ПАВІНЕН СТАЦЬ СУМЛЕННЫ ЧАЛАВЕК

Сярод большасьці жыхароў Беларусі існуе меркаваньне, што прэзідэнтам краіны павінен стаць прэтэндэнт, які прапануе лепшую праграму па выхаду з эканамічнага крызысу. (Зразумела, людзей ў першую чаргу хвалюе тое, з вынікам чаго яны сутыкаюцца паўсядзённа.) Ня згодныя, а дакладней, не зусім згодныя з такой думкай.

Прэзідэнт можа быць прыхільнікам рыначнай ці планавай эканомікі, дэмакратам ці камуністам, арыентавацца ў сваёй дзейнасьці на Ўсход ці Захад, але ж ён павінен быць чалавекам:

- які б ажыцьцявіў свае абяцаньні й сказаў, якім шляхам, а не хаваўся за агульнымі, бязсэнсоўнымі фразамі, разьлічваючы на папулізм;

- які жадае ўзначаліць дзяржаву, каб палепшыць жыцьцё ўсяго беларускага народа (не якойсьці яго часткі), а не каб прыкрыцца новай пасадай для далейшага абкраданьня з адданымі людзьмі краіны;

-які б быў прадказальным у сваіх дзеяньнях, а не кідаўся ў залежнасьці ад сытуацыі ад "чырвоных" да "белых", ад "карычневых" да "блакітных" і не нагадваў таго сабаку, якому гаспадары дазволілі зьніштожыць ворагаў, а ён, адчуўшы смак, потым узяўся й за іх;

- які б стаў сапраўдным лідэрам дзяржавы, дзякуючы якому аб Беларусі ведаў увесь сьвет і лічыўся з ёй, а не сьмяяўся, лічачы за лепшае абмежаваць стасункі з ёй;

- які б любіў Радзіму больш за жыцьцё, дбаў аб тым, каб памножыць яе багацьці, а не распрадаваў яе, як уласную маёмасьць, па частках у залежнасьці ад таго, хто больш заплоціць;

- які б мог, калі давядзецца, адказаць як за ўласныя памылкі, так і за памылкі сваёй каманды, а не маўчаць ці аднеквацца;

- які быў бы здольным даць рашучы адпор недобразычлівцам, а не "падстаўляў" бы дзеля ўласнага спакойнага жыцьця сумленных, несправядліва абвінавачаных людзей;

- які б сваім прыкладам паказваў грамадзянам краіны, якім павінен быць чалавек, а не наадварот.

Дзеля ўсяго вышэй згаданага шмат ня трэба, проста ён павінен быць СУМЛЕННЫМ ЧАЛАВЕКАМ. Толькі дзякуючы яму Беларусь зможа пераадолець крызыс, палепшыцца дабрабыт усіх слаёў грамадзтва, а не адных за кошт іншых. У адваротным выпадку краіна й надалей будзе набліжацца да бездані, "вырατаваць" яе зможа толькі дыктатар, і людзям, якія яшчэ ня бачылі сапраўднай дэмакратыі, давядзецца надоўга забыць пра яе. Калі вас задавольвае гэта, спадары й таварышы, выбірайце несумленнага, але не забывайце, што народ мае такога лідэра, якога заслугоўвае.

У сумленнага чалавека павінна быць сумленная каманда. Ці ж могуць быць такімі людзі, якія, зьбіраючы подпісы ў падтрымку свайго вылучэнца, парушаюць заканадаўства? Адны - карыстаючыся боязьзю людзей страціць працу й месца вучобы і прымушаючы рабіць гэта падначаленых, другія - прывезшы танных прадуктаў і даючы за подпіс пляшку віна, трэція, - зьбіраючы галасы за аднаго прэтэндэнта на пасаду прэзідэнта, прапануюць падпісацца на тым жа лісьце тых, хто падтрымлівае іншага. (Нездарма кажуць: "З кім павядзешся, ад таго й набярэшся.") Таму й ня дзіўна, што кагосьці на паперы можа падтрымліваць вялікая колькасьць людзей.

Але ж ці сумленна гэта? Таму раю аддаць свой голас за сумленнага чалавека, бо толькі ад гэтага залежыць далейшы лёс Бацькаўшчыны, кожнага яе жыхара, каб потым не было сьмешна, сорамна й да сьлёз крыўдна.

**С.РЭЎКА.**

 









# ДЭМАКРАТЫЯЙ НАВАТ І НЯ ПАХНЕ

У другой палове красавіка бягучага года ў Скідалі не бяз ведама мясцовых уладаў узялі ды раскапалі агароды, больш за 20 дзялак, якія доўгі час належылі грамадзянам, што жывуць у шматпавярховых дамах. Ахвярамі самавольства сталі й вэтэраны вайны П.Д.Каваленка, Ф.А.Кускова й многія іншыя. Гэта, напэўна, ім падарунак да Дня Перамогі. Ніхто нават не спытаў у людзей дазволу выкапаць на іх агародах траншэі й пракласьці там каналізацыю. У некаторых зьнішчылі ўнесены ў зямлю гной, у другіх папкодзілі пасевы. Людзям нанесьлі матэрыяльныя страты і думаеце што, кампэнсавалі? Нічога падобнага, нават не папрасілі прабачэньня.

На сьвята Перамогі ў крамах адсутнічалі ня толькі многія харчовыя тавары, неабходныя для сьвяточнага стала, але й чорны хлеб. Людзі бегалі па ўсіх крамах горада, каб знайсьці буханку. Прычына? Адсутнасьць паліва на хлебазаводзе. Але ж трэба так кіраўнікам горада падвесьці, каб абавязкова сапсаваць сьвяточны настрой! І сапсавалі.

У перадсьвяточныя дні таксама не курсіравалі прыгарадныя й гарадзкія аўтобусы Скідальскага аўтапарка N 5. Але ж каб была ўлада народа, дык быў бы і хлеб, і паліва для народа, як яно было для дырэктара аўтапарка С.С.Іаскевіча, які курсіраваў сваёй "волгай", то да асабнякапалаца, то да мацi, то да цешчы на аладкі, на працу - з працы, на абед - з абеду. Пры ўладзе народа паліва не было б і для асабістай таксоўкі чыноўніка. А ў нас народ ходзіць пешшу, а кіраўнікі езьдзяць.

Матэрыяльны стан большасьці людзей за апошнія гады даведзены да жабрацкай торбы. У першым квартале бягучага года зводны індэкс розьнічных цэн на тавары народнага спажываньня й платныя паслугі насельніцтву па вобласьці ў параўнаньні з першым кварталам мінулага года склаў 3092 працэнты, у тым ліку ў сакавіку ў параўнаньні з сакавіком мінулага года - 2680 працэнтаў. Розьнічныя цэны за гэты пэрыяд узрасьлі на тавары народнага спажываньня ў першым выпадку ў 36,6 раза, у другім - у 34,9 раза. А заработная плата за гэты час павысілася ўсяго ў 13 разоў. Гэтыя дадзеныя ўзятыя не з столі, а з статыстыкі, якая была надрукаваная ў вабласной газэце "Гродзенская праўда".

Звальняюцца й рабочыя з прадпрыемстваў. За справаздачны пэрыяд іх звольнена 16,5 тысячы чалавек.

І што ж гаварыць народу чыноўнікі-бюракраты, якія давялі людзей да такога жыцьця? "Разорваны экономические связи." А хто іх рваў? Яны, а не народ, дык хай і наладжваюць. Але як гэта робіцца? Пад выглядам іх наладжваньня, за кошт дзяржаўных сродкаў езьдзяць за мяжу, але ж ад гэтых гастралёраў толку ня бачна. Мэта ў іх адна: каб нажыцца й павесяліцца за дзяржаўны кошт. У нашым Гарадзенскім раёне нават складзены графік, калі і ў якую краіну павінен выехаць той ці іншы кіраўнік раённага рангу. Але гэты графік трымаецца ў сакрэце ад народа.

А хто запытаў у народа, каб у горадзе Скідалі закрыць гарадзкі Дом культуры, кіёскі па продажу газэт, і ў навакольных вёсках адключыць радыёкропкі? А ніхто.

Чаму ж столькі гадоў чыноўнікі, што ва ўладзе, адно брэшуць аб дэмакратыі, а яе няма й нават ня пахне. Таму што ва ўладзе тыя ж самыя, што былі ў часы застою. А яны схільныя да таго, каб народу было горш, а ім лепей: хай пабачаць людзі, як жыць пры дэмакратах, і ўспомняць былыя часы. І ўладу са сваіх рук аддаваць не зьбіраюцца, так і пхнуцца вышэй і вышэй.

Што ж рабіць, каб дэмакратыяй запахла добра? Патрэбныя датэрміновыя выбары на ўсіх узроўнях, каб да ўлады прыйшлі сапраўдныя сумленныя людзі. Але ж як гэта зрабіць? Найперш трэба выбраць прэзідэнта. А ім, на мой погляд, можа быць толькі Пазьняк, у асобе якога сумленне нашай нацыі. Нарэшце, патрэбна рашучасьць народа, каб ён сказаў сваё слова. Інакш, калі зноў падмануць, і цярпеньне народа лопне, то дагуляецеся, панове-чыноўнікі, сапраўдная ўлада ўсёроўна настане й вас спытаюць, на чым кожны з вас пагрэў рукі.

**І.БАРЫСАЎ,**
**Старшыня вэтэранскай арганізацыі Скідальскага гарадзкога Савета народных дэпутатаў.**



**На здымку: вось так раскапалі вэтэранам вайны й салдацкім удовам агароды ў дні перад сьвятам Перамогі.**

**(Фота аўтара.)**

# ЯКІ СЮРПРЫЗ НАСТУПНЫ ДЗЕНЬ РЫХТУЕ?

Пэнсіянэры Беларусі атрымалі магчымасьць бязплатна карыстацца паслугамі прыгараднага аўтамабільнага й чыгуначнага транспарту. Урад вырашыў стварыць такім чынам сацыяльныя магчымасьці для вырошчваньня імі на садовых участках прадуктаў. Чым адгукнецца такая дабрыня?

Транспартнікі рэспублікі дагэтуль цярпелі вялікія страты, бо з бюджэтаў розных узроўняў датацыі паступалі нерэгулярна й не ў поўным аб'ёме. Няма ўпэўненасьці, што чарговы шырокі жэст будзе прафінансаваны. А страты ад новых ільгот будуць велізарнымі.

Ці ня лепей было б, калі ўрад сапраўды жадае палепшыць жыцьцё старых людзей, зрабіць дапамогу адраснай, зрабіўшы даплаты да пэнсій. Тады б кожны вырашыў асабіста, ці зьезьдзіць на лецішча, ці купіць штосьці ў краме, ці патраціць грошы на штосьці іншае, бо ня кожны пэнсіянэр мае зямельны ўчастак.

Рэйсавыя аўтобусы й раней езьдзілі па выхадных днях перапоўненыя. Значнае павелічэньне колькасьці ільготнікаў можа толькі пагоршыць становішча. У хуткім часе тыя ж пэнсіянэры могуць пашкадаваць, што атрымалі ільготы. Хаця пэўным уладным структурам і даручана паклапаціцца аб павелічэньні колькасьці аўтобусных маршрутаў і прыняць меры па забесьпячэньню прадпрыемстваў пасажырскага транспарту нафтапрадуктамі па рэгулюемых цэнах, у тое, што гэта спраўдзіцца, ня верыцца (шмат прымалася ўжо розных рашэньняў, але ж ці заўсёды яны выконваліся ў поўным аб'ёме). Ці ня будуць вымушаныя транспартнікі ў чарговы раз вырашыць свае праблемы за кошт простых сьмяротных, узьняўшы цэны?

Увогуле ж стварэньне ўрадам ільгот для пэнсіянэраў нагадвае чарговы прапагандысцкі жэст, які б ўзьняў яго аўтарытэт сярод шматкольскаснай групы выбаршчыкаў. Перадвыбарчая кампанія - справа важкая, так што да канца чэрвеня можна чакаць новых сюрпрызаў, калі ў адных будуць забіраць апошняе на карысьць другіх, каб падкінуць падачку выбаршчыкам і такім чынам атрымаць іх галасы.

**Д.АЛЕГАЎ.**

P.S. Калі нумар рыхтаваўся да друку, чыгуначнікі ў тры разы ўзьнялі тарыфы на праезд у пасажырскіх цягніках, што ідуць за межы Беларусі. Так, білет у плацкартны вагон да Масквы каштуе звыш 150 тысяч рублёў. Як кажуць, дачакаліся. Білеты да станцый у межах рэспублікі не падаражэлі. Пакуль...

# ВАША КІСКА КУПІЛА Б «ВІСКАС». А ВЫ ПАКАШТУЙЦЕ «ПЭДЗІГРЫ–ПАЛ»

Той, хто хаця б аднойчы быў на Цэнтральным рынку Горадні, ня мог не заўважыць, што, акрамя садавіны й гародніны, мяса-малочнай прадукцыі, гандляры прапануюць і жывы тавар: сабачак і кацянят. Калі разам з дарослымі ля іх праходзяць дзеці, толькі й чутно:

- Хачу сабачку! Купі, тата (мама)!

Бацькі, напалоханыя такой просьбай, у адказ:

- Пра што ты гаворыш? Ён жа шмат есьць.

Сапраўды, зрабіць такі падарунак свайму дзіцяці могуць зараз толькі заможныя бацькі. Для простых людзей, што існуюць за кошт мізэрнай зарплаты, гэта не ўяўляецца магчымым. Калі грошы на тое, каб набыць сабаку, яшчэ можна знайсьці, узьнікае пытаньне: як яе пракарміць - бо зараз тая ж сабака ня проста хатняя жывёла, а сапраўдны член сям'і. За дзень ён можа зьесьці да двух кілаграмаў мяса. І калі чалавек можа перайсьці на вегэтарыянскую ежу, то сабака ж - платаядная жывёла, як кажуць, супраць прыроды не напрэш. А колькі ж мяса можа набыць просты працаўнік на сваю зарплату (калі толькі яе яшчэ выплочваюць)? Людзям не хапае, што ўжо казаць пра жывёлу. Нездарма ўсё часьцей яны пазбаўляюцца нават ад службовых сабак.

Але ж калі вы любіце свайго гадаванца й вырашылі пачаставаць яго чым-небудзь смачным, пашукайце тое, што "раяць лепшыя сабакаводы", папярэдне прыхапіце што-небудзь ад галаўной болі, бо яна ў вас узьнікне, калі вы ўбачыце цэны. Вы зразумееце, што ваш сабака можа зьесьці не дзіцячы й нават не дарослы, а тыднёвы паёк сям'і за адзін дзень. Напрыклад, на торжышчы ў пасёлку Паўднёвым трохкілаграмовы пачак "Пэдзігры-Пал", якога можа хапіць на дзень-два, каштуе 5-6 даляраў, поўкілаграмовая бляшанка "Пэдзігры-Пал. Юніёр" - 1 даляр. Апошні ёсьць таксама ў камэрцыйным кіёску ля аўтавакзала й цягне на 9.320 рублёў, а бляшанка "Чаппі" той жа вагі - 8.500.

У спэцыялізаванай краме Гарадзенскага заапарку ніякай ежы для сабак не прадаюць. Так што карміце, спадары-сабакаводы, сваіх сяброў ліверная каўбасой ці супавымі наборамі па 5.090 і 5.290 рублёў за кілаграм адпаведна, калі вы толькі можаце дазволіць гэта хаця б сабе. А вы, сябры чалавека, прабачце, нам бы самім выжыць, пачакайце лепшых часоў (калі яны толькі прыйдуць).

**А.ДУК.**

# ІЗНОЎ ЛІХАМАНІЦЬ

Наноў у фірмовых крамах акцыянэрнага таварыства "Гроднаабутак" назіраецца пакупнічая ліхаманка. Людзі на апошнія сродкі купляюць нават па 20-40 параў абутку.

Карэспандэнт "Пагоні" затэлефанаваў да эканамічнага аддзелу таварыства й вызнаў наступнае: дэпартамэнт коштаў даслаў новыя расцэнкі на вырабы таварыства. Плануецца, што дзесьці з 18-20 траўня кошт абутку будзе значна вышэйшы.

**Г.МЫСЬЛЯВЕЦ.**

# НЕ ПРАЗ ДЗЬВЕРЫ, ДЫК ПРАЗ СЬЦЕНЫ

Не шанцуе апошнім часам гарадзенскаму камэрсанту К. Злодзеі раз-пораз ломяцца ў яго гараж, што месьціцца ў раёне гарадзенскай "Пагулянкі". Нядаўна зламысьнікі, каб зламаць дзьвярныя замкі, стралялі да апошняга са зброі. Не дабіўшыся свайго, злодзеі праз пэўны час ноччу выбілі восем цаглін з бакавой сьцяны й скралі два навюткія колы ад замежнага легкавіка, а таксама не пагрэбавалі і зломанымі сонцазахоўнымі акулярамі гаспадара.

**Г.ДАМІНІКАНСКІ.**

# ТРЭЦЯЯ ХВАЛЯ ГОЛАДУ

Добра памятаю голад 1922 г. і 1933 г. Я жыў тады з бацькамі на Украіне і, каб выжыць, маці варыла для нас, дзяцей, лебяду, крапіву. Запарвала на крутым кіпені травы, кветкі. Вынаходлівасьць маці й дазволіла нашай сям'і выжыць. Тыя, хто ня вывіў кемлівасьці й чакаў дапамогі ад уладаў камуністых, памерлі. Зараз, калі асэнсоўваю мінуўшчыну й перад вачыма паўстаюць сотні памерлых ад галадухі, то разумею, што голад 1922 і 1933 г.г. - гэта сплянаваная акцыя бальшавіцкага ўраду.

Таму мяне, старога чалавека, сёньня непакоіць рэчаіснасьць, бо ў справах уладных нагадваецца палітыка тых сумнавядомых гадоў.

**В.СЕГІНЬ.**

 

# ІНВЭСТЫЦЫІ – ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ – УЛАСНАСЬЦЬ

## Для пачатку крыху аб марксізме

Мы зьбіраемся будаваць прававую сацыяльную дзяржаву з сацыяльна арыентаванай, рыначнай (у апошнім, здаецца, ніхто, акрамя членаў ПКБ, не сумняваецца) эканомікай. Чым жа адрозьніваецца сацыяльна арыентаваная дзяржава ад прывычнай нам сацыялістычнай, адпаведна - сацыял-дэмакраты ад ня менш прывычных камуністаў?

На міжнароднай канфэрэнцыі "Асноўныя пытаньні сацыяльнай палітыкі й гаспадараньня ў Беларусі й суседніх краінах", якая праводзілася пад эгідай сацыял-дэмакратычных арганізацый (Фонд імя Ф.Эберта, Цэнтр імя У.Пальме, БСДГ), тыя, хто прысутнічаў, пачулі шмат цікавых тэзысаў, якія тлумачаць , у чым памыляўся Карл Маркс і, наадварот, аказаўся правы адзін з заснавальнікаў сацыял-дэмакратыі Эдуард Берштэйн.

Як вядома, падставай бальшавізма стала вядомая думка К.Маркса аб непазьбежнай экспрапрыяцыі экспрапрыятараў, пасьля якой рабочы чалавек быццам бы стане кіраваць вытворчасьцю. Памянёны тэзіс выклікаў сьветлыя надзеі не ў аднаго пакаленьня людзей, але ў рэальнасьці адзяржаўленьне ўласнасьці прывяло да стагнацыі, а замест пралетарыята каля руля апынулася бюракратыя.

Сацыял-дэмакраты таксама выйшлі з марксізма, але адмовіліся ад радыкалізму. Яшчэ ў канцы 19 стагоддзя Эдуард Берштэйн зрабіў вывад: канцэнтрацыя ўласнасьці ў нешматлікіх руках не адбываецца, наадварот, паралельна разьвіваюцца разнастайныя буйныя, сярэднія й дробныя прадпрыемствы, а значыцца, ніякі ўрад ня здолее справіцца са складаным вытворчым арганізмам. Ня трэба імкнуцца да абагульненьня, да адзяржаўленьня вытворчасьці - гэта не гарантуе справядлівасьці. Да таго высьветлілася, што клас уласьнікаў усё пашыраўся (паўстала акцыянэрная, каапэратыўная ўласнасьць), між іншым, за кошт пралетарыяту, што рабіла пытаньне сусьветнай рэвалюцыі неактуальным і стварала аснову грамадзкай стабільнасьці. Апошні вывад Берштэйна: пралетары могуць уладарыць толькі там, дзе доўжыцца тэрор, бо экспрапрыяцыя маёмасьці супярэчыць інтарэсам пераважнай большасьці насельніцтва. Тэзіс абагульненьня ўласнасьці быў заменены ідэяй грамадзкага кантролю над ёй. Асноўныя мэтады кантролю - падаткавае заканадаўства, удзел наёмных работнікаў і іх арганізацый ў кіраваньні вытворчасьцю. Сацыялізаваная нейкім чынам прыватная ўласнасьць эфэктыўна пачала працаваць на грамадзтва, ствараючы багацьце для большасьці. Параўнаўшы заробак савецкага й швэцкага рабочых, нескладана пераканацца, каго ж у сапраўднасьці эксплуатавалі.

## Неабходна канцэпцыя сацыяльнай абароны

У цывілізаваным грамадзтве дзейнічае сыстэма сацыяльнага партнёрства работадаўцаў, адным з якіх зьяўляецца дзяржава, і наёмных працаўнікоў, інтарэсы якіх выражаюць прафсаюзы, у тым ліку й сыстэма вырашэньня працоўных спрэчак, якая грунтуецца на міжнародным заканадаўстве. Аднак у Рэспубліцы Беларусь з 176 канвэнцый Міжнароднай арганізацыі працы ратыфікавана 38, а прафсаюзы ня маюць магчымасьці ў поўнай меры выражаць інтарэсы працоўных. Пры гэтым схаванае безпрацоўе дасягнула вялікіх памераў і пагражае ў любы момант трансфармавацца ў адкрытую. Таму скарачэньне працоўных месцаў павінна ісьці паралельна з перааабучэньнем вялікай колькасьці людзей для работы на прадпрыемствах іншага профілю. Замест гэтага працягваецца даціраваньне нерэнтабельных вытворчасьцяў, на якіх налічваецца прыкладна палова непатрэбных людзей. Трэба адзначыць, што "корміць" гэтых фіктыўных работнікаў не ўрад, а ўсё грамадзтва. Чым больш схаванае безпрацоўе, тым вышэй інфляцыя, неэфэктыўней эканомія, спажывальніцкія настроі, сацыяльная апатыя ў грамадзтве.

Дзяржаўная сацыяльная палітыка Беларусі фармуецца бязсыстэмна: малыя тэмпы прыватызацыі, замацоўваюцца структурныя перакосы ў эканоміцы, не стымулюецца прадпрымальніцтва ў сацыяльнай сфэры, не разьвіваецца сацыяльнае страхаваньне, не разьмеркавана кампэтэнцыя паміж тэрытарыяльнымі структурамі ўпраўленьня. Неабходны навукова-мэтадычныя распрацоўкі сацыяльнай палітыкі, зразумелай для большасьці й здольнай кансалідаваць грамадзтва. Яе задача - вызначыць дакладныя межы занятасьці, пражытковага мінімуму й адрасныя гарантыі для найбольш неабароненых слаёў насельніцтва. Неабходна перaадолець сацыяльнае ўтрыманства, каб актыўная частка грамадзтва атрымала магчымасьць забясьпечыць і сябе, і тых, каму сапраўды патрэбна дапамога.

## Пераход да рынку – дэцэнтралізацыя ўпраўленьня эканомікай

На палову разбурыўшы сацыялістычную эканоміку, якая хай дрэнна, але забясьпечвала ўсіх, мы апынуліся ў становішчы пушкінскай старой каля разьбітай начоўкі. Натуральна, што эканоміку трэба рэфармаваць і накіроўваць рэформы павінна дзяржава, мяняючы пры гэтым свае прывычныя функцыі. Сацыялістычная дзяржава кіравала ўласнасьцю, прававое й сацыяльнае павінна ахоўваць свабоду чалавека як грамадзяніна й як уласьніка. Новыя задачы дзяржавы: стварэньне эканамічнай і сацыяльнай інфраструктуры рынка, сацыяльная падтрымка нацыі. Без сумненьня, што для разьвіцьця рыначнай сыстэмы неабходны палітычны лад на аснове прынцыпаў народаўладдзя, свабоды, роўнасьці грамадзян, дамінаваньня права.

## Неабходна «донарская кроў»

За апошнія два гады аб'ём інвэстыцый скараціўся на 38%, і гэтая тэндэнцыя захоўваецца. Летась ён склаў толькі 17,1% валавага ўнутранага прадукта краіны (апошні, дарэчы, таксама зьменшыўся за апошні год на 9%), пры тым, што мінімальна неабходным аб'ёмам інвэстыцый лічыцца 20% ВУП, іншымі словамі, 3% ці 400 мільярдаў рублёў мы папросту праелі замест таго, каб укласьці ў вытворчасьць. Дадаем, што зношанасьць асноўных фондаў беларускіх прадпрыемстваў складае 50%, а недзе дасягае 70%. Каб забясьпечыць аднаўленьне асноўнага й абаротнага капіталу, гарантаваць людзям сацыяльную й эканамічную абарону, беларускай эканоміцы неабходна "донарская кроў". Роля дзяржавы - стварыць умовы для актывізацыі крыніц інвэстыцый, адна з якіх - рэформа ўласнасьці.

Дырэктары дзяржпрадпрыемстваў не адказваюць уласнасьцю за свае эканамічныя памылкі, у той жа час неабмежавана распараджаюцца маёмасьцю, прадукцыяй і бязпраўнымі наёмнымі работнікамі. Як вынік - прадукцыя часта рэалізуецца па заніжаных цэнах, не набываецца новае абсталяваньне. Ды й навошта купляць, калі будзе прыватызацыя: чым дзешавей прадпрыемства, тым лепей. Хутчэй за ўсё, калі прыватызацыя затрымаецца, дзяржуласнасьць можа быць даведзена да "голых сьцен".

Важную ролю ў фарміраваньні крыніц інвэстыцый адыгрывае падаткаабкладаньне, аднак цяперашнія падаткі не стымулююць працу, а караюць за яе: больш працуем, больш плоцім. Падаткавая палітыка носіць агрэсіўна-фіскальны характар, у выніку новыя вытворчасьці (а гэта новыя рабочыя месцы) не ствараюцца, старыя спыняюцца, ня маючы збыту з-за высокага сабекошту прадукцыі.

Неабходна перамясьціць цэнтр цяжару падаткавага прэсу: зьменшыць падаткі на дабаўлены кошт, прыбытак, павялічыць на нерухомасьць (зямлю, будынкі, абсталяваньне) - так робяць у разьвітых краінах.

Падатак на ўласнасьць - адзін з мэханізмаў падпарадкаваньня прыватнай уласнасьці інтарэсам грамадзтва. Як сьцьвярджаюць некаторыя эканамісты, шляхам падаткаў, без дапамогі судоў можна вырашыць праблему "прыхватызаванай" уласнасьці: ацаніць маёмасьць грамадзян па рынaчнай цане й вызначыць падатак на ўзроўні разьвітых краін - 2-3% ад кошту штогод. Чыноўнік, які пабудаваў катэдж за хабары, за 10-20 гадоў выплаціць яго кошт і, хутчэй за ўсё, будзе вымушаны прадаць чалавеку, што зарабіў грошы сумленна.

Натуральна, што пры рабоце ў тры зьмены рэзка зьніжаецца сабекошт і ствараюцца новыя рабочыя месцы. Калі заводу трэба ўдвая менш цэхаў, ён можа прадаць палову, а для тых, што застануцца, - набыць новае абсталяваньне. Дзяржава павінна з дапамогай законаў выключыць спэкуляцыю й злоўжываньні, вызначыць прыярытэты інвэстыцыйнай палітыкі, стварыць падаткавыя ільготы, гарантыі для інвэстараў, умовы для прытоку замежнага капіталу, тэхналёгій, навуковага патэнцыялу, вопыту ўпраўленьня, а таксама праводзіць рацыянальную палітыку ўзаемаадносін з усходнімі й заходнімі суседзямі, заснаваную не на рамантычных уяўленьнях пра "братэрскую дружбу", а на ўзаемавыгадных умовах.

## Бег на месцы на парозе прыватызацыі

У сусьветнай практыцы існуе ўзаемазьвязаная трыяда: нацыяналізацыя, раздзяржаўленьне, прыватызацыя. Звычайна нацыяналізуюцца тыя галіны, якім неабходна абнаўленьне й "аздараўленьне", пасьля якіх мадэрнізаваныя прадпрыемствы зноў перадаюцца ў прыватныя рукі. Але савецкія людзі, як вядома, - вялікія аматары па вынаходніцтву квадратнага кола. Нацыяналізацыя ж у СССР праводзілася 75 гадоў, таму й давяла вытворчасьць да тэхналягічнай адсталасьці й фондавай зношанасьці.

Асноўная роля прыватызацыі - актывізаваць прадпрыймальніка, садзейнічаць росту вытворчасьці. Але гэта на Захадзе. У краінах былога Саюзу дамінуе імкненьне разьмеркаваць дзяржаўную ўласнасьць, пры гэтым прыватызацыя губляе ўсялякі сэнс.

Трэцяя праблема - манапалізаванасьць беларускай эканомікі, якая пры няўдалым правядзеньні прыватызацыі можа ўзрасьці.. Пакуль выбрана прыватызуюцца (ці "прыхватызуюцца", што таксама рэдка) дробныя й сярэднія прадпрыемствы. Што рабіць з гігантамі, шмат з якіх амаль "ляжаць"? Ці выпрацавана дзяржаўная тактыка наконт гэтага ці, як звычайна, зьбіраемся перахрысьціцца, калі грымне гром? Вельмі цікавым уяўляецца вопыт Нямеччыны.

Праблемай прыватызацыі дзяржуласнасьці ў Нямеччыне займаецца Апякунскае ведамства - незалежная дзяржаўная арганізацыя, якая не ўваходзіць у склад кабінэта міністраў. Буйныя заводы Ўсходняй Гэрманіі драбіліся на часткі, акцыянаваліся й прадаваліся на аукцыёнах у вельмі кароткі тэрмін (каб даць перавагу жыхарам былой ГДР) і з жорсткімі ўмовамі набыцьця (патрабаваньне захаваць мінімальную колькасьць рабочых месцаў, зямельны падатак, эканамічныя й іншыя патрабаваньні). Такім чынам, асноўную частку дзяржуласнасьці атрымалі грамадзяне былой ГДР, што стала дзейсным лекам супраць люмпэнізацыі й асновай для стварэньня "сярэдняга класа". У той жа час замежным капіталам было набыта каля 10% маёмасьці (у аукцыёнах удзельнічала некалькі фірмаў Расеі, толькі адна з іх адпавядала прад'яўленым патрабаваньням). Некаторыя прадпрыемствы, пераважна ў Бэрліне, купялі выключна з-за зямлі, на якой яны знаходзяцца, шэраг не купілі нават за сымбалічную плату ў адну марку. Што ж, такія выдаткі "сацыялістычнай сыстэмы гаспадараньня". Заўважым, што Нямеччына - краіна з разьвітымі рыначнымі структурамі й мэтадамі ўпраўленьня якой было значна прасьцей інтэграваць эканоміку ГДР у ўжо існуючы рынак, чым былым савецкім рэспублікам ствараць яго на пустым месцы.

Зразумела, правядзеньне прыватызацыі ў Расеі ня вельмі пасьпяховае. Тлумачыцца гэта тым, што старая намэнклятура імкнецца абмяняць палітычную ўладу на эканамічную, стаўшы буйным уладаром дзяржаўнасьці. Да таго ж, перадача ўласнасьці на прыярытэтных умовах працоўным калектывам абмежавала правы іншых грамадзян і не садзейнічала атрыманьню інвэстыцый (іншаземцам лепей мець справы з канкрэтным уладаром, чым са структурамі, што вымагаюць хабары) і павышэньню эфэктыўнасьці вытворчасьці. У той жа час у ЗША й Заходняй Эўропе калектыўныя прадпрыемствы нярэдка больш эфэктыўныя, чым традыцыйна прыватнакапіталістычныя. Прычына, магчыма, у псыхалёгіі нашага "гэгэмона", адвучанага за гады савецкай улады ад ініцыятывы, адказнасьці, здольнасьцяў арганізоўвацца й абараняць свае правы.

Складанасьці ў пабудове рынaчнай мадэлі эканомікі штурхаюць Расею назад, да нарматыўна арыентаванай сыстэмы, якая поўнасьцю ўпраўляецца дзяржавай. Заўважым, што доўг Расеі толькі па заробку сваім вытворцам складае каля 100 трыльёнаў рублёў, да таго ж усе галіны патрабуюць датацый, іх выдзяленьне пагражае павелічэньнем узроўню інфляцыі. У той жа час прамаруджваньне з правядзеньнем рэформаў, прыватызацыяй толькі павялічыць супярэчнасьці.

Беларусь знаходзіцца яшчэ ў больш цяжкім за Расею становішчы, адставаньне ад апошняй складае два гады. Каб навярстаць упушчанае, неабходна канцэпцыя дэмакратычнай рэформы, якая б улічвала інтарэсы ўсяго насельніцтва й рашуча праводзілася. Рэфармаваньне ўласнасьці павінна падтрымліваць баланс паміж эканамічнай эфэктыўнасьцю, напаўненьнем бюджэта й сацыяльнай абаронай насельніцтва. У канцэпцыі эканамічнай рэформы трэба ўлічваць асаблівасьці краіны, яе традыцыі, культуру, гэаграфію, яе інтэлектуальны патэнцыял, а галоўнае, рэформа павінна быць накіравана на разьвіцьцё й росквіт Беларусі.

**Т.ПАЛЯКОВА.**

## НАБІРАЕМСЯ ВОПЫТУ

Чарговая міжнародная канфэрэнцыя на тэму "Канстытуцыйныя асновы самакіраваньня ва Ўсходняй Эўропе" адбылася ў Менску. Яе ладзілі Беларускі Фонд падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Л.Сапегі й Фонд Сорас-Беларусь. Акрамя беларускага боку, у ёй узялі ўдзел прадстаўнікі Латвіі, Эстоніі, Малдовы, Украіны, Албаніі, Польшчы, Балгарыі й Нямеччыны.

Асноўнай мэтай канфэрэнцыі ставілася азнаёміць сабраўшыхся з вопытам правядзеньня канстытуцыйных рэформаў апошніх гадоў у краінах Балтыі і Ўсходняй Эўропы, вызначыць асноўныя праблемы й пэрспэктывы рэфармаваньня мясцовых ворганаў улады ў Беларусі. Асабліва карыснай канфэрэнцыя сталася для шматлікіх беларускіх навукоўцаў, дэпутатаў розных узроўняў, юрыстаў, бізнэсмэнаў, журналістаў, прадстаўнікоў палітычных партыяў і рухаў, якія маглі азнаёміцца з вопытам, без якога далейшыя прагрэсіўныя зьмены ў нашай краіне папросту немагчымыя.

**(ав).**

## СУМЕЖЖА

# ЛЕТУВА МОЖА ВЫКАРЫСТАЦЬ ПОЛЬСКІ ВОПЫТ

### ПРЭЗІДЭНТ ПОЛЬШЧЫ Л.ВАЛЭНСА АДКАЗВАЕ НА ПЫТАНЬНІ КАРЭСПАНДЭНТА ЭЛЬТА А.ДЗЕГУЦІСА.

**- Спадар прэзідэнт, у Летуве вы вельмі папулярны. Летувісы ўжо шмат гадоў атаясамляюць вашу асобу з ідэямі свабоды й дэмакратыі, але дагэтуль вы ня здолелі наведаць Летуву. З якімі пачуцьцямі вы едзеце сюды й што зьбіраецеся сказаць летувісам?**

- Аказваецца, іншы раз і бліжэйшыя суседзі бываюць далёкімі адзін ад другога, таму я рады, што перашкоды на нашай дарозе скончыліся, і мы можам сустрэцца. Я накіроўваюся з візытам, падчас якога мы падпішам з прэзідэнтам Летувы дамову аб дружбе, якая так доўга ўзгаднялася. Веру, што ён стане добрай асновай для пашырэньня супрацоўніцтва некалі цесна зьвязаных між сабой дзяржаваў і народаў, супрацоўніцтва, заснаванага на прынцыпах партнёрства й двухбаковай карысьці. Менавіта пра гэта я й буду казаць летувісам. Скажу таксама, што гэта ў нашых агульных інтарэсах - як у двухбаковых, так і ў эўрапэйскім кантэксьце. Нашыя краіны ня могуць увайсьці ў XXI стагоддзе без узгадненьня сваіх дзеяньняў, паасобку. Гэта пагражала б і Польшчы, і Летуве апынуцца выкінутымі на сьметнік гісторыі як краінам, няздольным вызваліцца ад цяжкасьцяў мінулага, сумесна пераадолець іх і не замыкацца ў коле незразумелых цывілізацыі XX стагоддзя праблемаў. Я заўсёды казаў, што мінулае важна для нацыянальнай і грамадзкай самасьвядомасьці, але яно не павінна ціснуць на будучыню.

**- Вы шмат разоў казалі, што шлях Летувы ў Эўропу ляжыць праз Польшчу. У нас шмат агульных праблемаў, напрыклад, дэмілітарызацыя Калінінградзкай вобласьці. У планы Летувы ўваходзіць таксама далучэньне да вышэйградзкай групы. Чым, на ваш погляд, Польшча магла б дапамагчы Летуве?**

- Гэта так. У Летувы два шляхі - на Ўсход і на Захад. Калі казаць пра заходні напрамак, то я ведаю, што летувісы вельмі высока цэняць свае сувязі з Латвіяй і Эстоніяй, вялікія надзеі ўскладаюць на цеснае супрацоўніцтва з краінамі Скандынавіі. Мне хацелася б зьвярнуць увагу на тое, што Летуве недалёка да Эўропы й праз Польшчу. Нягледзячы на складанасьці, што былі ў мінулым, нашыя сувязі былі й будуць. Ёсьць шмат сфэраў для сумеснай дзейнасьці. Польшча была першай з краін Усходняй і Цэнтральнай Эўропы, якая пачала пераўтварэньні грамадзкай сыстэмы й эканомікі. Тут мы пайшлі далей за ўсіх. Летува магла б выкарыстаць наш вопыт. Польшча ўдзельнічала ў стварэньні вышэйградзкай групы, таму мы можам быць адказчыкамі і ў пытаньнях рэгіянальнага супрацоўніцтва.

Нашыя краіны вярнулі сабе свабоду й незалежнасьць. Трэба знайсьці сваё месца ў Эўропе, якая аб'ядноўваецца. Польшча даўно вызначыла напрамкі сваёй палітыкі. Мы імкнемся ўвайсьці ў эканамічную сыстэму Заходняй Эўропы й сыстэму эўрапэйскай бясьпекі, уступіць у Эўрапэйскі саюз і НАТА. Тым жа шляхам хоча ісьці й Летува, таму патрэбныя сумесныя дзеяньні. І мы, і вы далучыліся да праграмы "Партнёрства ў імя міру". Думаю, раней ці пазьней мы сустрэнемся ў Эўрапэйскім саюзе.

Вялікую ролю я адводжу таксама эканамічнаму супрацоўніцтву. Ранейшых эканамічных сувязяў яшчэ няма, а новых - колькасных і якасных - пакуль няшмат. А ад іншых эканамічных магчымасьцяў залежыць нашае месца ў шэрагу іншых дзяржаваў. Нашыя пункты перасячэньня мяжы ўсё яшчэ перагружаны.

**- Калі размова заходзіць пра гістарычныя праблемы летувіскага й польскага народаў, вы рэкамэндуеце гісторыю пакінуць гісторыкам. Але калі закранаюцца гісторыя Польшчы й Летувы, прапануеце расставіць кропкі над "і". Нягледзячы на міжнародную дамову, як у Летуве, так і ў Польшчы, напэўна, гістарычныя моманты не сатруцца з памяці абодвух народаў. Зразумела, што, акрамя варожасьці, капаньне ў мінулым нічога не прынясе. Ці бачыце вы рашэньне гэтай праблемы?**

- Гэта ня так. Нельга ўсё тлумачыць так спрошчана. Не кранаючы падрабязнасьці, хачу сказаць, што мінулая й агульная гісторыя Летувы й Польшчы, Польшчы й Расеі несупастаўляльныя, аднак, нягледзячы на складанае мінулае, дамова з Расеяй падпісана ўжо два гады таму.

Я рады, што і ў нашым выпадку дасягнуты кампраміс - гэта перамога. Мы абралі такую пазыцыю: гістарычныя пытаньні дамова рэгуляваць ня будзе, хаця адзначана, што ў нашай гісторыі былі й цёмныя, й сьветлыя старонкі. Калі мы жадаем будаваць новыя адносіны, то ня можам грунтаваць іх на тым дрэнным, што было ў мінулым - гэта выкліча новую напружанасьць. Польшчу з Нямеччынай, з Украінай таксама раз'яднала нялёгкая гісторыя, але праз гэта здолелі прайсьці. Упэўнены, што ў выпадку з Летувой і Польшчай такое таксама магчыма, больш таго - неабходна абодвум краінам.

Я не патрабую, каб мы - летувісы й палякі - раптам страцілі сваю калектыўную памяць, за дзень жа мэнталітэта ня зьменіш. Патрэбныя час і здаровы сэнс.

**- У адносінах паміж Летувой і Польшчай важкае пытаньне нацыянальных меншасьцяў. Вы казалі нядаўна, што ўзорам вырашэньня гэтай праблемы зьяўляецца становішча палякаў Латвіі. Тым ня менш, з друку мы даведаліся, што ў гэтай краіне, дзе жыве 60 тысяч палякаў, толькі дзьве польскія сярэднія школы, а 20 тысяч палякаў увогуле ня маюць грамадзянства. У Летуве 130 польскіх школ, навучаньне вядзецца па польскіх падручніках. Ёсьць польскія дзіцячыя садкі й яслі. У Сейнах, дзе трэць насельніцтва - летувісы, няма ніводнай летувіскай школы ці садка. У Пунске, дзе ёсьць адзін летувіскі ліцэй, навучаньне вядзецца па польскіх падручніках. Як вы пракамэнтуеце такую сытуацыю?**

- Вы кіруецеся голай статыстыкай, а яна можа быць падманлівай. Хачу нагадаць, што дагавор, які мы падпісалі, грунтуецца на міжнародных стандартах, у тым ліку й на тых, што датычацца нацыянальных меншасьцяў. І летувісы, і палякі там, дзе яны зьяўляюцца нацменшасьцямі, захоўваюць самабытнасьць і культурную спадчыну, будучы лаяльнымі да дзяржаваў, у якіх яны жывуць. Рэгулююцца й іншыя праблемы - у вобласьці адукацыі, мовы, падручнікаў і г.д. Мы заклалі прававую аснову, патрабуецца толькі добрая воля.

**- Прэзідэнты Летувы й Польшчы, замацаваўшы сваімі подпісамі міжнародную дамову, адкрыюць новую старонку ў нашай гісторыі. Якой бачыцца вам будучыня нашых народаў?**

- Дружбы з дапамогай дамовы мы ня створым. Дамова толькі адкрывае магчымасьці. Як мы іх выкарыстаем - будзе залежыць ад нас. Зьявілася адчуваньне стабілізацыі нашых адносін. Кампрамісная формула дамовы рэгулюе палітычнае статус-кво. Давайце цяпер засяродзімся на стварэньні найбольш спрыяльнай для нас мадэлі будучага, якая ўключае ў сябе адносіны з усімі краінамі Эўропы й аднога з другімі. Ня будзем адгароджвацца ўспамінамі мінулага, інакш іншыя змогуць паспрабаваць вызначыць нашу будучыню без нас.

**Падрыхтаваў А.ДУК.**

**P.S.** Калі матэрыял рыхтаваўся да друку, прэзідэнты Летувы й Польшчы А.Бразаўскас і Л.Валэнса падпісалі міждзяржаўную дамову. У час сустрэчы кіраўнікоў дзяржаваў было падкрэсьлена, што абедзьве дзяржавы імкнуцца знайсьці сваё месца ў Эўропе, якая аб'ядноўваецца, і ў гэтым сэньсе патрэбныя сумесныя дзеяньні.



**ДРУСКЕНІКІ. НА СКРЫЖАВАНЬНІ ЦЭНТРАЛЬНЫХ ВУЛІЦ.**
**Фатаграфаваў А. УЛАДАСЕВІЧ.**

# ВІЛЕНСКІЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНІ

Міністэрства замежных спраў распаўсюдзіла заяву аб магчымым павелічэньні вайсковага кантынгэнта Расеі на тэрыторыі Эстонскай Рэспублікі. У ёй, у прыватнасьці, гаворыцца: "Заява міністра абароны Расейскай Фэдэрацыі П.Грачова аб магчымым павелічэньні вайсковага кантынгэнта Расеі для абароны правоў этнічных рускіх можа быць расцэнена толькі як ціск на Эстонію з мэтай прымусіць яе да адмовы ад сваёй пазыцыі на перамовах з Расеяй... Падобныя заявы... павышаюць напружанасьць у рэгіёне, выклікаюць пагрозу бясьпекі дзяржаваў Балтыі."

***

Рашэньнем банка Летувы з абарачэньня выводзяцца банкноты вартасьцю 20 літаў 1991 года выпуска. З 1 чэрвеня яны без абмежаваньняў будуць абменьвацца ва ўсіх банках краіны. Да гэтага дня яны ня будуць прымацца для аплаты й разьлікаў.

***

Урад Летувы прыняў рашэньне, што займацца скупкай й продажам лома чорных мэталаў і іх адыходаў можна толькі пры наяўнасьці ліцэньзіі , цана яе на год - 10 тысяч літаў. У апошні час усё часьцей зьнікаюць чыгуначныя рэйкі, цыстэрны, крышкі каналізацыйных люкаў. Экспарт мэталаў значна апярэджвае імпарт.

***

Летась кожны літ, выкарыстаны на ўтрыманьне мытні, прынёс 15,1 літа прыбытку. У цэлым у 1993 годзе мытнямі Летувы было сабрана 95 мільёнаў падаткаў і іншых збораў. Сёлета плануецца сабраць 180 мільёнаў.

Прадугледжваецца забесьпячэньне ўсіх 15 рэгіянальных мытняў краіны радыётэлефонамі. Прынятыя меры для таго, каб касы Сельскагаспадарчага банка, што дзейнічаюць на мытнях, рабілі абмен грошай усіх краін.

***

Урад Летувы адобрыў праграму падрыхтоўкі пэдагогаў для выхаваўчых установаў нацменшасьцяў. У першай палове дзесяцігоддзя асноўную ўвагу мяркуецца зьвярнуць на падрыхтоўку настаўнікаў пачатковых класаў, летувіскай мовы й літаратуры, замежных моваў, эстэтычнага выхаваньня, этнічнай культуры.

***

Самы высокі ўзровень безпрацоўя па краіне ў Шаўляі. Сёлета ў першым квартале тут былі зарэгістраваны 4.4 тысячы непрацуючых, што шукалі працу грамадзян, з іх 1.4 тысячы мелі статус безпрацоўнага.

***

У лясах Варэнскага лясніцтва й Дзукійскага нацыянальнага парка грыбы й ягады можна будзе зьбіраць толькі па білетах. Кошт разавага й сязоннага - 2 і 10 літаў адпаведна. Яны патрэбныя нават мясцовым жыхарам. Устаноўленыя тарыфы збораў за стаянку аўтатранспарта на часовых месцах адпачынку й лясных пляцоўках: для легкавікоў - 1 літ у суткі, для грузавікоў і аўтобусаў - 3 літы.

***

Урад зацьвердзіў адзіную форму ўліка дзяцей школьнага ўзросту . Зараз у Летуве налічваецца больш за 4 тысячы дзяцей да 16 гадоў, якія ня скончылі сярэднюю школу (9 класаў) і нідзе ня вучацца. Сістэма ўліку дапаможа стварыць адзіную статыстыку - віршайцісы раённых апілінак і мэры гарадоў павінны будуць даваць дадзеныя штогод да 1 чэрвеня.

***

На конкурсе праектаў рэканструкцыі Клайпэдзкага нафтапрадпрыемства перамагла галяндзкая фірма "Тебодзін". Рашэньне прыняў камітэт экспэртаў Міністэрства энэргэтыкі Летувы пасьля разгляду тэхнічных і фінансавых прапаноў, прадстаўленых шасьцю замежнымі фірмамі.

***

Йонаўская раённая ўправа зарэгістравала пярвічную арганізацыю удзельнікаў 2-ой сусьветнай вайны на баку антыгітлераўскай кааліцыі Йонаўскага раёна. Галоўная мэта арганізацыі - аб'яднаць аднадумцаў, паклапаціцца аб паляпшэньні жыцьця вэтэранаў вайны.

***

Званьне "Міс Летува - 94" атрымала 21-гадовая студэнтка стаматалягічнага факультэта Каўнаскай мэдыцынскай акадэміі Юрге Таўкутэ. Ёй уручана пуцёўка для падарожжа на Ямайку, відэакамэра, а генэральны фундатар конкурсу канцэрн EBSW ўзнагародзіў Каралеву прыгажосьці Летувы аднапакаёвай кватэрай у Вільні.

У заключным конкурсе прынялі ўдзел 18 дзяўчын з буйнейшых гарадоў краіны.

